ГРАМАДЗЯНСКІЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№4, ЛІПЕНЬ 2012

ВЫДАЕЦЦА З 1997 ГОДА

ПРАВА

# Камітэт ААН па правах чалавека

## прыняў да разгляду сем скарг, пададзеных за бягучы год Цэнтрам стратэгічнай цяжбы

14 чэрвеня кіраўніцтва "Цэнтра стратэгічнай цяжбы" атрымала лісты з Камітэта ААН па правах чалавека, паводле якіх скаргі гомельскіх грамадскіх актывістаў Дзмітрыя Карашкова і Уладзіміра Няпомняшчыхзарэгістраваны і накіраваныя ураду Беларусі для выказвання афіцыйнай пазіцыі беларускага боку адносна парушэнняў правоў, аб якіх гаворыцца ў скаргах. Акрамя таго, прынята да разгляду і скарга аднаго з прадстаўнікоў Цэнтра - Васіля Палякова.

Дзмітрыя Карашкова беларускія улады пакаралі буйным адміністрацыйным штрафам у памеры 1.750 тыс. рублёў за ўдзел у Народным сходзе, які прайшоў у Гомелі 8 кастрычніка мінулага года.

"8 кастрычніка 2011 года прыкладна ў 13-20 хвілін на вул. Юбілейная, 48 каля ПК "Віпра" ў Гомелі Д. Карашкоў парушыў усталяваны парадак правядзення масавых мерапрыемстваў: удзельнічаў ў недазволеным мітынгу, які праводзіўся у месцы правядзення ярмаркі па продажу сельскагаспадарчай прадукцыі", - напісаў у сваёй пастанове суддзя суду Чыгуначнага раёну Гомеля Яраслаў Парэмскі.

Зараз беларускаму ураду трэба вельмі пастарацца, каб пераканаць міжнародную супольнасць ў тым, дзеля чаго краіна пераследвае у адміністрацыйным парадку сваіх грамадзян, якія прыйшлі на месца правядзення афіцыйна дазволенай сельскагаспадарчай ярмаркі.

Другі актывіст з Гомеля Уладзімір Няпомняшчых звярнуўся у Камітэт ААН па правах чалавека пасля таго, як за той год улада пяць разоў прыцягвала яго да адміністрацыйнай адказнасці. Усяго пенсіянер МУС быў вымушаны сплаціць каля 800 тысячаў рублёў штрафаў, адсядзець двое сутак у ІЧУ і акрамя таго сплаціць дзяржпошліны на сумму каля чатырох мільёнаў рублей пры абскарджанні фактаў незаконнага прыцягнення да адказнасці.

Актывіст падкрэслівае, што калі суддзі суда Цэнтральнага району Гомеля Алена Цалкова і Марына Дамненка каралі яго адміністрацыйнымі штрафамі, як дарэчы і іх калега з суду Чыгуначнага раёну Ілля Свірыдаў, то Чыгуначнага суддзю Анатоля Сотнікава штраф чамусьці не цікавіў, ён адправіў актывіста на двое сутак арышту напярэдадні Дня Волі.

Прадстаўнік Цэнтру Васіль Палякоў скардзіцца ў ААН з прычыны прыцягнення яго да адміністрацыйнай адказнасці за адмову прайсці дактыласкапію. 13 красакавіка 2011 года суддзя суду Савецкага раёна Гомеля Галіна Сыцько палічыла, што намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Васіль Палякоў наўмысна непадпарадкоўваецца законнаму патрабаванню супрацоўнікаў міліцыі і наклала на яго 875 тысяч рублёў штрафу.

"Цэнтр стратэгічнай цяжбы" (Гомель) за апошнія гады падрыхтаваў у Камітэт ААН больш за 50 зваротаў ад грамадзян, 24 з якіх ужо зарэгістраваныя і чакаюць разгляду; дзевяць скаргаў за пяць гадоў былі задаволеныя Камітэтам па правах чалавека ААН.

**gomelspring.org**

# СМІ паведамляюць

**06.07.2012**
**gomelcivil.org:** «Фільм пра ікону беларускага фемінісцкага руху гатовы. Дакументальная стужка, прысвечаная жыццю і дзейнасці гамяльчанкі Палуты Бадуновай, падрыхтаваная да паказу. Сцэнарыстка і выканаўца галоўнай ролі гомельская журналістка Ларыса Шчыракова бачыць паралелі паміж сваёй біяграфіяй і фактамі з жыцця міністаркі БНР Палуты Бадуновай… Здымаў карціну "Палута Бадунова. Успомніць і... не забыць" мінскі рэжысёр Валерый Мазынскі па замове тэлеканала Белсат. Прэзентацыя фільма плануецца ў кастрычніку. Сярод акцёраў былі заўважаныя гомельскія грамадскія актывісты: Зміцер Карашкоў, Кастусь Жукоўскі, Наталля Маркевіч, Яўген Меркіс, Яўген Якавенка... ».

**08.07.2012**
**gomelcivil.org:** «У Гомелі актывісты Таварыства беларускай мовы ўсклалі кветкі да помніка беларускага паэта. 7 ліпеня па ўсім свеце адбыліся святкаванні з нагода 130-га юбілею Янкі Купалы. Паэт-сімваліст, ідэолаг адраджэання, аўтар "Адвечнай песні" нарадзіўся ў ноч з 6 на 7 ліпеня ў 1982 годзе ў фальварку Вязынка (цяпер Маладзечанскі раён). Увесь дзень 7-га ліпеня пошукавая сістэма google аформіла сваю старонку з выявай Янкі Купалы…».

# Родная мова ці мова «змагароў»?

**Неаднаразова даводзілася чуць ад людзей навокал, што беларуская мова сёння – гэта мова «свядомых», ці мова «змагароў». Таму і размаўляць на ёй, у прынцыпе, не варта.**

Што для мяне мова? Я сама не размаўляю пабеларуску штодня, але і ў думках ніколі не было асацыяваць сваю родную мову з нейкімі грамадска-палітычнымі ўстановамі або іх дзеячамі. Для мяне беларуская мова — гэта, у першую чаргу, мова маіх бабуль і дзядуль, іх расповедаў аб продках, песен і прымавак. З кожным гукам беларускай мовы перада мною паўстаюць абшары палёў і драмучыя яловыя лясы Віцебшчыны, ці сасновы бор на пясчаным беразе, падмываемы разлітай Прыпяццю. Па-другое, гэта мова выдатных, непаўторных беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, якія зрабілі не меншы ўнёсак у сусветную літаратуру за іх «раскручаных» расейскіх калег. І калі новае пакаленне ўжо не зможа прачытаць іх творы на мове арыгінала, гэта будзе найвялікшай культурнай стратай для нашай краіны. І, нарэшце, гэта мова новай, незалежнай краіны пачатку 90-х гадоў, маёй калісьці беларускамоўнай школы і страчанага Адраджэння.

Мова і грамадства

Чамусьці, ў значнай частцы жыхароў нашай краіны беларуская мова не выклікае падобных пачуццяў… Чаму? Няўжо ў іх не было нічога з таго, што і ў мяне? Я не размаўляю на мове, але люблю яе і зараз нанова вывучаю. І хацела б, каб і мой двухгадовы сын таксама ведаў родную мову і потым на ёй навучаўся. Але што, як вы лічаце, я адразу пачала чуць на гэты конт? "А навошта табе гэта" ці "няма чаго табе рабіць" – гэта самыя нейтральныя прыклады рэакцыі нашага грамадства нават на СПРОБЫ размаўляць па-беларуску. Асабліва выклікае замілаванне: "Нешта раней я за табой не заўважала такой любові да мовы!" Гэта сказаў чалавек, які ніколі добра мяне не ведаў і маімі перакананнямі ўвогуле не цікавіўся. Канешне, значную ролю ў гэтым адыгралі тыя ж самыя апазіцыйныя актывісты і грамадскія дзеячы, якія і з'яўляюцца ў большасці выпадкаў амаль адзінымі носьбітамі беларускай мовы. І не заўсёды іх актыўныя дзеянні ўспрымаюцца грамадствам як нармальныя ці адэкватныя. Але з гэтай рэакцыяй грамадства іншы раз цяжка не пагадзіцца. Не хачу нікога абразіць ці абвінаваціць, але трэба зразумець, што праз скаргі і суды за беларускую мову можна, мабыць, пазмагацца з дзяржавай, але вярнуць любоў і павагу шырокага кола людзей да яе – нельга. Абывацелям ужо абрыдла палітыка. Але вінавата і само грамадства: што гэта за беларус такі, калі яго стаўленне да роднай мовы наўпрост залежыць ад нейкіх дзеянняў звонку? Любоў да мовы, як і да Радзімы, нараджаецца і жыве ў душы чалавека. Таму чуць такія меркаванні, што не варта размаўляць на роднай мове, бо «мы бліжэй да Расіі», ці «можна любіць сваю радзіму і ня ведаць беларускай мовы», або таму што на ёй размаўляюць толькі «свядомыя», ці «змагары», — мне проста страшна.



Дзе выйсце?

Сітуацыя складаная. Але, як паказваюць шматлікія сацыялагічныя даследванні, большасць беларусаў добра ставяцца да навучання дзяцей на беларускай мове, «КАЛІ Б ГЭТА БЫЛО ЎВЕДЗЕНА». А ўведзена гэта, на жаль, мала дзе. Тыя ж вынікі датычацца культуры. Аднак грамадскіх устаноў і арганізацый, якія ладзяць сапраўды якасныя і цікавыя культурныя мерапрыемствы на беларускай мове, вельмі няшмат. І тыя не знаходзяць падтрымкі ва ўладаў. Вось за гэта і варта змагацца.
Таму сітуацыю можна зламіць не праз суды, пікеты і дэмаршы: калі мы зараз ставім сваёй мэтаю аб'яднаць наш народ ў адно цэлае, свядомае, беларускамоўнае грамадства, гэта трэба рабіць у першую чаргу не праз палітыку і не з дапамогай штучнай ідэалогіі, а праз адукацыю і культуру. Толькі такім шляхам, без прымусу і націску, можна пераканаць грамадства ў тым, што беларуская мова – не неаддзельная ад палітыкі, гэта не мова «змагароў», а нашая, родная СПАДЧЫНА. Гэта марудны і цяжкі шлях, але найбольш эфектыўны. Нездарма адзін з «айцоў» Еўразвяза Ж. Манэ заўважыў:

«Калі б магчыма было пачаць працэс аб'яднання Еўропы зноў, то я бы зрабіў гэта праз адукацыю і культуру…»

**Марыя СІДАРЭНКА**
*kli4nik.info*

МОВА НАША

# Беларускамоўныя фікусы*

Мікола БЯНЬКО

**Моўнае пытаньне ў Беларусі – заўжды палітыка, хацелася б камусьці гэтага ці не.**

Як перавядуцца беларускамоўныя беларусы, тады і канчаткова здымецца пытаньне. Сучасная беларуская мова – гэта неаддзельны складнік шляхецка-буржуазнага палітычнага праекта, які паўстаў у асяродку нацыянальна арыентаванай часткі русіфікаванага грамадства ў другой палове XIX стагодзьдзя. І дагэтуль гэтаму палітычнаму праекту няма годнай альтэрнатывы. Ані часовы праект лукашэнкаўскай мадэрнізацыі, ані карыкатурнае "ліцьвінства" ня здольныя нават у мінімальнай ступені канкураваць з пастулятамі, сфармуляванымі заснавальнікамі сучаснай беларускай літаратуры і стваральнікамі БНР.

Джорж Оруэл у публікацыі "Палітыка і ангельская мова" адвесіў вэрбальную аплявуху прыхільнікам моўнага традыцыяналізму. "Любая барацьба супраць некарэктнага выкарыстаньня мовы – гэта ўсяго толькі даніна сэнтымэнтальнаму кансэрватызму, накшталт таго, як некаторыя дагэтуль аддаюць перавагу сьвечкам, а не электрычнаму сьвятлу. Пад гэтым хаваецца паўбесьсьвядомая вера ў тое, што мова – гэта проста частка прыроды, а не інструмэнт, які фармулюецца і выкарыстоўваецца чалавекам для рэалізацыі сваіх ідэяў".

Ідэолягі нацыянальнага адраджэньня, зьвяртаючыся на мове ў нешматлікіх тэкстах да сялянска-мяшчанскіх масаў Паўночна-Заходняга краю, найперш заклікалі да барацьбы за свае сацыяльна-палітычныя правы. У сёмым нумары "Мужыцкай праўды" Кастуся Каліноўскага, які выйшаў непасрэдна падчас вызвольнага паўстаньня 1863 году, наўпрост утрымліваецца заклік да бунта: "...А пакуль яшчэ пара, трэба нашым хлопцам спяшаць з віламі ды з косамі там, гдзе дабіваюцца волі да праўды, а мы, іх бацькі да жонкі нашы, сцерагчы будзем да ўведамляць, адкуль на іх сягне нячыстая маскоўская сіла, да ад душы памагаць усялякімі спосабамі дзяцюкам нашым, што за нас пойдуць біцца. А будзе ў нас вольнасць, якой не было нашым дзядам ды бацькам".

Мацей Бурачок, ён жа Франц Багушэвіч, таксама ўдзельнічаў у паўстаньні 1863 году. У прадмове да эпахальнага зборніка паэзіі "Дудка беларуская" аўтар задаецца пытаньнем: "Гдзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывец: яна ад Вільні да Мазыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...". Ня трэба быць фантазёрам, каб уявіць, што падобная фармулёўка нацыянальнай праблемы ў рэаліях Расейскай імпэрыі 1891 году – гэта наўпроставы заклік да сэпаратызму. А такія рэчы не маглі разглядацца па-за межамі палітыкі пільнымі чыноўнікамі з адпаведных органаў.



Лейтматывам беларускамоўнага верша Янкі Купалы «Мужык», надрукаванага ў 1905 годзе ў газэце «Северо-Западный край», зьяўлялася апісаньне гаротнага стану прадстаўніка беларускага сацыяльнага дна:

Галеюць дзеці век без
хлеба,
Падзёрты жончын
чаравік,
Не маю грошы на
патрэбу, —
Бо я мужык, дурны
мужык.

Як вынікае з прыведзеных прыкладаў, ключавыя дзеячы нацыянальнага Адраджэньня на пераломе XIX-XX стагодзьдзяў не займаліся штучнымі гульнямі ў адасабленьне моўнай праблематыкі ад палітыкі. Палітычнае вызваленьне беларускага народу ад расейскага царызму мела на мэце ў тым ліку і моўны рэнэсанс.

У гады сталінскіх рэпрэсіяў паэтаў і пісьменьнікаў забівалі зусім не за вершы пра кветачкі-васількі і прыгожыя беларускія лясы. Мова для бальшавікоў па вызначэньні зьяўлялася прыкметай нацыянал-дэмакратычнай арыентацыі. Менавіта на падставе гэтага выносіліся сьмяротныя прысуды.

Нездарма сярод заснавальнікаў палітычнай арганізацыі Беларускі Народны Фронт ў канцы 1980- х гадоў было багата прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі. Васіль Быкаў, Алесь Марачкін, Рыгор Барадулін, Зянон Пазьняк і многія іншыя не сумняваліся, што беларусізацыя і палітычнае вызваленьне ад Крамля – непадзельная справа.

Нягледзячы на тое, што моўнае пытаньне ўвесь час знаходзіцца на вастрыі палітычнай барацьбы, у нацыянальна арыентаваных асяродках заўжды знаходзяцца асобы, для якіх белмова – гэта нейкі ідал для сэнтымэнтальнага ўкленчаньня. Своеасаблівая «рэч у сабе», якая мае невытлумачальную сакральную

>>> 3

2 <<<

каштоўнасьць. «Мова маіх бабуль і дзядуль, іх расповедаў аб продках, песен і прымавак. З кожным гукам беларускай мовы перада мною паўстаюць абшары палёў і дрымучыя яловыя лясы Віцебшчыны, ці сасновы бор на пясчаным беразе, падмываемы разлітай Прыпяццю», -- у такім рэчышчы разважаюць апалітычныя беларусафілы. І далей такія дзеячы звыкла вінавацяць у «змагарызьме галаўнога мозга» тых людзей, якія штодня сваімі высілкамі пашыраюць беларускамоўную прастору. Неяк праграмны дырэктар Радыё Рацыя Яраслаў Іванюк прывёў у якасьці антыпрыкладу выказваньні асобных прадстаўнікоў беларускага трэцяга сэктару. На нейкім замежным сэмінары сябры адной арганізацыі заявілі, што яны не займаюцца палітыкай. Маўляў, «сфэра іх дзейнасьці абмяжоўваецца культурай». Такія сьцьвярджэньні занадта наіўныя, каб быць праўдай. «Не яны вызначаюць, што палітыка, а што -- не», -- лічыць Яраслаў Іванюк. Сапраўды, дзе тая мяжа, за якой моўнае пытаньне перастае быць палітыкай? На сёньняшні дзень рэчаіснасьць такая, што менавіта ўлады, а не грамадзтва, вырашаюць, што адносіць да палітыкі. Як бы мы не спрабавалі дапасоўваць сваю пазыцыю да іх сьветапогляду, рана ці позна нават ускладаньне кветак да манумэнта клясыку Янку Купале будзе кваліфікавацца як акт палітычнага дзеяньня. Проста таму, што гэтага будзе патрабаваць бягучы парадак дня.

Намаганьні некаторых актывістаў Гомельскай філіі ТБМ дэпалітызаваць моўнае пытаньне ва ўмовах лукашэнкаўскай Беларусі – гэта абсурд, кшталту спробы стварэньня расейскім актарам Іванам Ахлабысьцінам «непалітычнай партыі». Не для таго ў 1995 годзе ўлады правялі рэфэрэндум, у выніку якога беларусаў практычна пазбавілі дзяржаўнай мовы. І калі хтосьці з сучасных жыхароў беларускамоўных эмпірэяў мяркуе, што атрымаецца «аб'яднаць наш народ ў адно цэлае, свядомае, беларускамоўнае грамадства ... не праз палітыку і не з дапамогаю штучнай ідэалогіі, а праз адукацыю і культуру», то ён глыбока памыляецца. Права на мову трэба дамагчыся, а не чакаць, пакуль на масы зваліцца прасьвятленьне.

Сяргей Дубавец у нядаўнім артыкуле «Беларусь – гэта мова» так патлумачыў значэньне мовы: «Паўсюль, дзе фігурантам паўстае мова (СМІ, рок-музыка, судовыя працэсы...), адразу відаць галоўную лінію супрацьстаяньня ў гэтай краіне. Самую балючую і самую глыбокую. Выглядае, што родная мова – гэта найбольш эфэктыўны інструмэнт супраць маразму на ўсіх узроўнях улады».

Беларуская мова сёньня – гэта адначасова і сродак камунікацыі, і эфэктыўны інструмэнт для дэмакратызацыі. Размаўляеш на мове – значыць ты ўжо як мінімум не вечназялёны фікус.

*****_Тэкст «Беларускамоўныя фікусы» – гэта своеасаблівая рэакцыя аўтара на артыкул «Родная мова ці мова «змагароў»?_

КУЛЬТУРА

# Винтажный проект Сергея Ляпина

**Выпускник БелГУТа разработал проект культурно-развлекательного квартала в старом Гомеле.**



Пока историки и архитекторы ведут активные дебаты, в каком районе города должны размещаться оставшиеся образцы старинной деревянной застройки Гомеля, выпускник БелГУТа Сергей Ляпин, руководствуясь оптимистичной мыслью «мечтать не вредно, вредно не мечтать», отвел для этих целей Свисток.

Откуда пошло такое название, доподлинно неизвестно. Исторически район Свисток простирался от улицы Пушкина, включая нынешний сквер им. Громыко, и доходил предположительно до современного стадиона «Центральный». Наиболее интересные образцы деревянной застройки находились по нынешним улицам Карла Маркса, Парижской Коммуны, Артема и в переулке Пушкина. Самые яркие из них — окутанный легендами

>>> 5

4 <<<

дом № 17 по Волотовской и «дом с мезонином» № 7-а по улице Парижской Коммуны, снесенный три года назад.

Разрабатывал Сергей Ляпин свой проект в рамках дипломной работы. Консультировали его специалисты различных сфер, небезразличные к судьбе гомельского деревянного зодчества. Заведующая художественным отделом музея Гомельского дворцово-паркового ансамбля Татьяна Литвинова предоставила исторические справки и архивные материалы по картографической основе Свистка, фотографии деревянных домов конца XIX — начала XX века. Опытный архитектор «Гомельгражданпроекта» Вадим Кисляков, ранее высказавший мнение о том, что именно в районе Артемовского спуска самое место уникальной деревянной застройке, помог адаптировать дипломный проект к современным требованиям. Научный сотрудник Ветковского музея народного творчества имени Ф. Шклярова Андрей Скидан поделился с выпускником БелГУТа своими рисунками, сохранившимися еще с конца 1980-х годов. Дома, изображенные на них, давно снесены, но тщательно выполненные рисунки этих строений позволяют воссоздать их в первозданном виде.

***— Сергей, раньше ты интересовался каменной архитектурой довоенного периода. И вдруг тема диплома, связанная с деревянным зодчеством. Почему возник такой интерес?***

— Неприглядная, на первый взгляд, деревянная застройка — самая ценная для Гомеля. Особенность ее дореволюционной эстетики в том, что дома скрупулезно украшались богатым деревянным декором. Дизайнерские наработки местных мастеров впечатляют своей уникальностью.

Это гомельская ДНК, присущая нашему городу особенность, которая в таком соединении деталей не встречается в других регионах Беларуси, России, Украины.

***— Почему твой выбор пал именно на Свисток?***

— Еще со времен освобождения Гомеля от фашистов этот квартал остается незастроенным. Пустырь по улице Артема, напротив поликлиники, находится в границах исторического района, где деревянные постройки сожжены во время Великой Отечественной войны, а оставшиеся единичные экземпляры, достаточно интересные образцы архитектуры, уничтожены в 80 — 90-х годах прошлого века: в советское время они не воспринимались всерьез. Насколько мне известно, до сих пор конкретных планов на застройку этого пустыря нет. А место идеальное для воссоздания исторической среды: центр города, неподалеку дворец Румянцевых и Паскевичей, река Сож.

***— Но созданный тобой квартал нельзя назвать историческим. Это, скорее всего, компиляция, дополненная авторскими вариациями на заданную тему. Почему ты делал ставку на вновь построенные деревянные дома вместо того, чтобы разместить здесь сохранившиеся уникальные старинные постройки?***

— Можно было пойти и по такому пути, но архитектор Вадим Кисляков убедил: не нужно стремиться только переносить старые дома. Конечно, какие-то из них можно перевезти в этот квартал, но можно ведь воссоздать и точные копии старинных усадебных домов по материалам БТИ, архивным снимкам, по рисункам с точными обмерами. Мой проект не предполагает полной аутентичности. Я не ставил перед собой такой цели. Еще раз хочу подчеркнуть, это не этнографический квартал, а культурно-развлекательный. Неприятно, когда о старинной деревянной застройке говорят «хатки-гнилушки», «деревня в центре города». В конце концов, захотелось разбить этот стереотип, возникло желание внести в свой проект некоторые черты современности и даже гламура в виде фонарей, лавочек. Здесь предусмотрено все для релакса: пешеходные улицы, ресторанчики, музеи, мини-отель, ночной клуб, подземный паркинг и даже фуникулер.

***— Да уж, проект не из дешевых! Как думаешь, есть шанс реализовать его пусть даже в необозримом будущем?***

— Думаю, есть. Если бы не надеялся, не стал бы настолько тщательно прорабатывать каждую деталь домов и квартала в целом. Фуникулер и подземный паркинг готов принести в жертву.

Сергей Ляпин находился в поиске до последнего: говорит, конечная картинка сформировалась за неделю до защиты диплома. Созданный им квартал, помимо пешеходных улиц, включает и две площади.

Последними в проект



*«Сергей Ляпин находился в поиске до последнего: говорит, конечная картинка сформировалась за неделю до защиты диплома...»*

были включены лучшие образцы деревянной архитектуры Станислава Шабуневского: пожарная каланча и деревянный цирк, полюбоваться которыми сейчас можно разве что на архивных снимках. В проекте выпускника БелГУТа бывшее здание пожарного депо с высокой башней-каланчой служит площадкой для обозрения, музеем пожарной техники и мини-гостиницей. А деревянный цирк — ночным клубом, причем коробка здания — бетонная, стилизованная под оригинальную деревянную постройку, с учетом новой специфики заведения.

Дорожное покрытие в воссозданном Свистке из булыжника, тротуары из клинкера. На деревянных домах, украшенных пышным резным декором, красуются винтажные вывески. Все это создает неповторимый уютный и теплый колорит, которого так не хватает современному Гомелю. Примечательно, что в этот архитектурный ансамбль прекрасно вписываются уже имеющиеся старинные постройки, размещенные

>>> 6

5 <<<

на улице Артема (клуб речников, бывший узел связи речного пароходства, бывшая женская гимназия Копиша).

Кстати, концепция защиты диплома была построена на сравнительном анализе перспективного гомельского Свистка с этнографическим музеем Скансен в Швеции. Это целый островок в Стокгольме, построенный 120 лет назад, куда шведы свезли деревянные дома не только со всей Швеции, но и Финляндии, Норвегии. Выступая перед экзаменационной комиссией, будущий архитектор Сергей Ляпин не удержался и весьма эмоционально произнес: «Да неужели эти скучные северные домики интереснее, чем пышная гомельская деревянная архитектура?!»

Вместе с тем дипломная работа лишний раз подтверждает, что интерес горожан к «пышной гомельской деревянной архитектуре» растет с каждым годом. Еще в советские времена, когда она была, что называется, не в тренде, только единицы понимали, что роскошный деревянный декор и есть истинное лицо Гомеля: чета Литвиновых интересовалась старинными деревянными домами с исторической точки зрения, а Андрей Скидан — с художественной и эстетической. С течением времени к ним стали примыкать историки, гомельская краеведческая общественная организация «Талака», архитекторы, журналисты и представители общественности, которые понимают всю важность сохранения доставшегося нам историко-культурного наследия. Гомельский историк Евгений Маликов настолько проникся этой темой, что даже защитил кандидатскую диссертацию «Деревянный архитектурный резной декор юго-восточной Беларуси конца XIX — первой половины XX века». А научный сотрудник Ветковского музея Андрей Скидан на протяжении двух десятилетий делает все возможное, чтобы сохранить детали деревянного декора, когда очередной дом, построенный в лучших гомельских традициях, попадает под снос. И еще, совместно с «Талакой» он проводит пешие экскурсии по Спасовой Слободе и другим районам Гомеля, где сохранилась историческая деревянная застройка. Экскурсии эти пользуются неизменной популярностью у гомельчан и гостей города.



*«Кстати, концепция защиты диплома была построена на сравнительном анализе перспективного гомельского Свистка с этнографическим музеем Скансен в Швеции...»*

**Наталья ПРИГОДИЧ,**
*"Гомельская праўда"*

ТРЭЦІ СЕКТАР

# Ні дня без талакі

**Юлія СІВЕЦ**

**Яўген Меркіс -- пра аб'яднанне крэатыўных людзей, імкненне зрабіць жыццё лепшым і самую галоўную загану беларускага грамадства.**

Купалле, гуканне вясны, абарона драўлянай спадчыны, экскурсіі па знікаючым Гомелі, публічныя лекцыі па культуры і гісторыі – усё гэта праводзіць "Талака". Альбо афіцыйная назва – Гомельская моладзевая краязнаўчая грамадская арганізацыя "Талака". Два гады яе ўзначальвае Яўген Меркіс.

- Што такое "Талака". Зразумела краязнаўчая арганізацыя... Зразумела, што займаецца рэканструкцыяй абрадаў і абаронай драўлянай спадчыны. А што акрамя гэтага?

- Апроч самога вызначэння, "Талака" – гэта аб'яднанне маладых людзей, якія прагнуць дзейнасці, якія хочуць прынесці карысць свайму грамадству, якія хочуць зрабіць штосьці на карысць беларушчыны, што знаходзіцца зараз у заняпадзе. І нават, можна так сказаць, атакуецца ворагамі з усіх бакоў. Таму ў першую чаргу, "Талака" - гэта аб'яднанне маладых, крэатыўных, адукаваных беларусаў, якія адрозніваюцца ад пераважнай большасці.

- Ці можаце ўзгадаць, як вы патрапілі ў "Талаку"?

- Я асабіста патрапіў праз сваю дзяўчыну. Яна была ў "Талацэ" ўжо вельмі

>>> 7



6 <<<

даўно. Паступова выйшаў на кантакты з іншымі талакоўцамі. Далучыўся да адміністравання краязнаўчага сайта Гомеля і Гомельшчыны, якім займаецца нашая арганізацыя і дагэтуль.

- А талака – гэта для вас хоббі. Ці нешта іншае?

- Так, калісьці я думаў, што "Талака" – гэта хоббі, якім у вольны час можна займацца. Такі сабе нейкі дадатак да ўсяго таго беларускага, чым займаецца кожны беларуска арыентаваны чалавек. А менавіта: чытае штосьці беларускае, штосьці піша ў інтэрнэце...

Але потым я зразумеў, што "Талака" - гэта цэлы напрамак жыцця. Бо арганізацыя - гэта вялізны такі ансамбль дзейнасці, якую можна накіраваць у абсалютна розныя накірункі. І кожны з гэтых накірункаў рэальны важны. То бок ты можаш прынесці рэальную карысць свайму грамадству, шмат на што паўплываць і шмат чаго змяніць. То бок гэта не проста аб'яднанне шахматыстаў, што адыгралі гульню. І гэтыя шахматы нікуды не знікнуць, бо яны былі, ёсць і будуць. А ты можаш рэальна паўплываць на жыццё, якое ў нас адбываецца, змяніць яго і зрабіць яго лепей.

- Вы ўжо два гады як старшыня "Талакі". А ці цяжка было стаць кіраўніком гэтай арганізацыі?

- Перадача ўлады – заўсёды адно з актуальных пытанняў. Таму што часцяком здараецца так, што цэлая генерацыя людзей, пакаленне, сыходзіць. І фактычна перадаць уладу няма каму. Новае пакаленне альбо яшчэ не ўзрошчанае, альбо проста не атрымалася, не прыйшло, не знайшлося. У мой час так часткова і атрымалася. Цэлае пакаленне людзей ужо трохі пачало адыходзіць ад справаў "Талакі", бо стамілася. У кожнага з'явіліся свае жыццёвыя прыярытэты. А моладзі было вельмі мала. Нешмат было і досьведу ў нас. Таму фактычны гэтае новае пакаленне "Талакі" пачало сталець разам са мной. То бок мы адначасова сталелі. І зараз у нас ёсць некалькі вельмі



актыўных талакоўцаў. Такі рэальны звышактыў. Афіцыйная колькасць сябраў у нас каля 15-16 чалавек. Але колькасць прыхільнікаў "Талакі" - ёсць такая кагорта - значна большая. На нашы падзеі і мерапрыемствы кожны раз збіраецца некалькі дзясяткаў жыхароў нашага горада. На публічныя лекцыі прыходзяць прыкладна па 20-30 чалавек, а на фальклорныя святы можа запраста прыйсці і 50-60.

- Як вы можаце ахарактарызаваць праблемы і патэнцыял вашай арганізацыі?

- Патэнцыял нашай арганізацыі досыць вялікі. Бо ў нашым грамадстве ўсё, чым не займаецца дзяржава, вельмі слаба развіта. Ёсць вялізныя сферы, дзе дзяржава не можа даць рады, дзе на некаторыя пытанні яна заплюшчвае вочы і не разумее іхняй актуальнасці. Узяць той жа прыклад разбурэння сваёй уласнай гісторыі, калі ў нас у Гомелі суцэльна руйнуюць драўляную гістарычную забудову. І гэта важным для 500-



>>> 8

7 <<<

тысячнага горада пытаннем фактычна ніхто, акрамя некаторых краязнаўцаў і той жа "Талакі", не займаецца. Таму патэнцыял арганізацыі вельмі высокі.

У нас ёсць тры вялізныя накірункі, у якіх мы дзейнічаем: гісторыка-краязнаўчы, фальклорна-этнаграфічны і культурніцка-асветніцкі. У кожным з гэтых накірункаў ёсць вялізныя сцежкі, якія не да канца пратораныя, якія можна самому вызначаць. Фактычна "Талака" дае шанец кожнаму беларусу тварыць будучыню сёння. І гэтая будучыня не нейкая дробная дэталь, якую можна скіраваць, а суцэльны накірунак.

Праблемы таксама маюцца. Напэўна, самая актуальная – гэта адсутнасць супрацы з уладамі. Бо ўлады ставяцца заўсёды вельмі насцярожана да любой недзяржаўнай арганізацыі. Часам яны перашкаджаюць. Прычым не заўсёды мэтанакіравана, лічачы што нашая дзейнасць шкодная. Вельмі часта ўлады перашкаджаюць ад неразумення, ад таго, што мала кваліфікаваных спецыялістаў. Ды і сама сістэма патрабуе ад уладаў залішняй асцярогі

Таксама актуальна стаіць пытанне памяшкання. Па тэорыі ўлады павінныя яго нам прадаставіць для сходаў талакоўцаў. Але на практыцы выбіць яго, каб збірацца недзе ў цэнтры горада хаця б адзін раз на тыдзень, вельмі цяжка. Адсутнасць памяшкання вельмі абмяжоўвае дзейнасць. А ў тых выпадках, калі нават ёсць нейкія рэсурсы для арганізацыі пасяджэння ці лекцыі дзесьці ў іншым месцы, то няма гарантыі, што яно адбудзецца. Бо былі выпадкі, калі ў апошні момант адмянялася сустрэча з ініцыятывы арэндадаўцаў памяшкання.

Ёсць і ўнутраныя праблема. Нават ў сектары недзяржаўных арганізацыяў вельмі нізкі ўзровень супрацы. Часцяком усе цягнуць коўдру на сябе. Кожны хоча паасобку штосьці зрабіць, каб потым сабраць усю славу. І праз гэта часцяком атрымліваюцца дробныя кампаніі і праводзяцца дробныя акцыі. Таму трэба аб'ядноўвацца. Але адсутнасць супрацы, пэўная салідарнасць -- гэта загана не толькі недзяржаўнага сектара. Гэта проста загана ўсяго беларускага грамадства. Таму трэба расці і развівацца разам.

- З якімі арганізацыямі яшчэ супрацоўнічаеце?

- У Гомелі нашым самым актыўным саюзнікам з'яўляецца Таварыства беларускай мовы. Іхнія мэты дзейнасці вельмі супадаюць з нашымі. Таму мы фактычна ўсе адзін аднаго ведаем. Наведваем мерапрыемствы адно аднога.

Калі браць не толькі гомельскія ініцыятывы, то мы супрацоўнічаем з некаторымі моладзевымі аб'яднаннямі. Напрыклад, Альтэрнатыўная моладзевая платформа. З краязнаўчымі арганізацыямі, якія раскіданыя па ўсёй рэспубліцы. Той жа самы Дзедзіч (Брэст). Супрацоўнічаем і з рэспубліканскімі арганізацыямі. Да прыкладу, з Асамблеяй дэмакратычных НДА. У нас ёсць кантакты і мы прыкладаем пэўныя намаганні, каб яны ўмацоўваліся.

**СМІ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ**

# «Хопіць піць — трэба жыць!»

**31.07.2012**

**kli4nik.info:** «28 ліпеня ў Чонках адбыўся першы турнір па футболу, арганізаваны ініцыятывай «Хопіць піць — трэба жыць!». Мэтай мерапрыемства стала прапаганда здаровага ладу жыцця і спорту як альтэрнатыве алкаголю. Зміцер Карашкоў, адзін з арганізатараў мерапрыемства, лічыць, што менавіта футбол можа стаць сродкам зняцця псіхалагічных бар'ераў паміж людзьмі і стаць нагодай для сустрэчы без «традыцыйнага» алкаголю… Турнір наведала каля 50 чалавек разам з гледачамі. Ва ўпартай барацьбе перамагла мясцовая каманда. Адметна, што ўся атмасфера турніра была выключна беларускай: мова, нацыянальныя сымбалі, усмешкі…».





ИНФОРМАЦИОННЫЙ БЮЛЛЕТЕНЬ

**Учредитель и редактор Василий ПОЛЯКОВ**
**А/я 28, 246003, Гомель. E-mail: vpalia@tut.by. Тираж 299 экз.**
**Отпечатано на личном оборудовании. Распространяется бесплатно.**